# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№3 (250)
сакавік 2023

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## Івонка Сурвілла: Менш сумневаў і больш веры ў саміх сябе

"Мы ўжо даўно перасталі быць рабамі. Некалі мы казалі пра сябе "тутэйшыя", бо не адважваліся казаць, што мы беларусы. Мы – стары еўрапейскі народ, народ разумны, адукаваны, таленавіты. Мы даўно ўжо здабылі назоў цывілізаванага народа і маем права быць гаспадарамі на сваёй зямлі".

Старонка 2






# У ЗЭЛЬВЕ ЗНІК ПОМНІК ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

У Зэльве ўсё ж такі дэмантавалі помнік Ларысе Геніюш. Напярэдадні з'явілася інфармацыя, што Зэльвенскі райвыканкам палічыў незаконным знос помніка і адмовіў праўладнай актывістцы Вользе Бондаравай.

Хто аддаў загад на ліквідацыю помніка, невядома.

### Што адбылося?

Блогерка з Гродна Вольга Бондарава лічыць, што помнік парушае Закон РБ "аб недапушчэнні рэабілітацыі нацызму". На думку актывісткі, помнік прыносіць "невымоўныя пакуты ўсё яшчэ жывым ветэранам Вялікай Айчыннай вайны і вязням германскіх канцлагераў".

Помнік беларускай паэтцы Ларысе Геніюш быў усталяваны на тэрыторыі царквы Святой Жываначальнай Тройцы ў Зэльве ў 2003 годзе. Бондарава прасіла знесці яго "без прыцягнення непатрэбнай увагі грамадскасці". Устаноўку помніка сапраўды не ўзгаднілі з адміністрацыяй горада, але на адкрыцці адслужылі паніхіду і помнік атрымаў блаславенне царквы.

Нагадаем, у лістападзе 2022 года блогерка з Гродна Вольга Бондарава звярнула ўвагу на прыватны музей Анатоля Белага ў Старых Дарогах. Бюсты знакамітых беларусаў, устаноўленыя перад будынкам, яна назвала «русаненавісніцкай і пранацысцкай экспазыцыяй» — і паскардзілася раённаму ідэолагу. Сярод іншых быў зняты і бюст Ларысы Геніюш.

budzma.org




## СЕРЫЯЛ "ТРЫЗУБ І ПАГОНЯ" АД КАМПАНІІ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

**Гістарычны серыял прысвечаны самым цікавым старонкам супольнай гісторыі Беларусі і Украіны. Таямнічы свет войнаў і інтрыг, кахання і барацьбы за ўладу, смерці і нараджэння дзяржаў адкрывае гледачам тэлевядоўца і спявачка Кацярына Ваданосава.**

Дзень Волі

# Івонка Сурвілла: менш сумневаў і больш веры ў саміх сябе

“Мы ўжо даўно перасталі быць рабамі. Некалі мы казалі пра сябе “тутэйшыя”, бо не адважваліся казаць, што мы беларусы. Мы – стары еўрапейскі народ, народ разумны, адукаваны, таленавіты. Мы даўно ўжо здабылі назоў цывілізаванага народа і маем права быць гаспадарамі на сваёй зямлі”.



Напярэдадні Дня Волі 25 сакавіка старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла паразважала пра беларускае надзённае, свае перасцярогі і спадзевы.

“Хацела б перадусім павіншаваць усіх беларусаў у свеце з нашым велізарным пачынальным Святам – Днём Волі. Віншую ад Рады БНР і ад сябе асабіста і жадаю, каб мы хутка маглі святкаваць, адзначаць яго на нашай роднай зямлі.

Тое, што найбольш мяне турбуе ў гэтым моманце – гэта небяспека, каб не дай Бог нехта не прыдумаў аддаць Беларусь крываваму крамлёўскаму тырану ўзамен за мір ва Украіне. Я гэтага страшэнна баюся, бо заходнія краіны не заўсёды разумеюць усе акалічнасці нашага рэгіёна. Ёсць небяспека падарунка, суцяшальнага прыза Пуціну, каб той перастаў змагацца ва Украіне. Хацела б падкрэсліць, што гэта ёсць праўдзівая і велізарная небяспека Беларусі. Хацелася б, каб усе беларусы разумелі, што нам трэба змагацца супраць гэтага. А Пуцін, думаю, быў бы цалкам задаволены з гэтага, улічваючы ягоныя няўдачы ва Украіне. Так што нам трэба даводзіць свету да ведама, што беларусы на гэта не пойдуць. Вельмі важна, каб пра гэта ведалі і свае, і чужыя. Дзеля таго, каб нікому не прыйшло ў галаву аддаваць Беларусь, каб здабыць крыху міру ва Украіне. Незалежная Беларусь – і гэта ўсе мы гаворым – патрэбная не толькі нам, але ўсяму вольнаму свету. Так, як патрэбная і Украіна – дакладна тое самае.

### Мова

Але ж як як змагацца супраць гэтага? Трэба даказваць свету ўсімі даступнымі спосабамі, што мы – вольны і незалежны народ, што мы не супакоімся ніякімі пагадненнямі, калі ад нас будуць старацца адабраць незалежнасць. Гэта наш вялікі запавет цяперашні, запавет усяго народа, усіх – і адных, і другіх, і тых, хто між сабою не могуць пагадзіцца, і тых, хто не разумеюць добра, што значыць незалежнасць, што значыць воля.

Як я ўяўляю сабе, як мы можам змагацца супраць волі нашых ворагаў сцерці нас з паверхні зямлі. Наша найважнейшая зброя – не я тое, безумоўна, адкрыла, але паўтару – гэта нашая мова. Менавіта яна даказвае свету, што мы – народ. Трэба, каб абавязкова людзі зразумелі, што мы мусім на кожным кроку, паўсюль карыстацца беларускай моваю. Як бачым, мова стала адной з прычын, якімі Пуцін тлумачыў свой напад на Украіну, маўляў, абарона рускай мовы.

Мова – велізарны фактар у жыцці народа. І дзеля абароны нашага жыцця мы мусім даказаць, што гэты фактар у нас існуе, што мы паважаем нашую мову і што ніколі не пагодзімся ні на якую русіфікацыю. Я думаю, што гэта найважнейшае.

Але, безумоўна, гэта велізарная праца, таму што многім нашым людзям цяжка выйсці з-пад расійскай прапаганды, бо так ім прамывалі мазгі столькі часу: расійскае лепшае, больш паважанае, нашая мова нічога не вартая. Трэба пра гэта найважнейшае на кожным кроку падкрэсліваць. Тут, мяркую, у журналістаў шмат магчымасцей, яны зараз маюць велізарную сілу ў свеце. Медыя могуць усё зрабіць, проста на некаторых пытаннях затрымоўвайцеся даўжэй, расстаўляйце кропкі над “і”. Нам таксама трэба свая прапаганда, прапаганда беларуская – у адказ на тое, што спрабуе апанаваць Беларусь, а беларусы пакуль не ўмеюць рабіць сваёй прапаганды. Таму прашу – паўтарайце дзесяць, сто разоў на дзень, каб людзі пачулі.

Заўважу, што тыя, хто хоча перайсці на беларускую мову, мусяць адрынуць такія аргументы кшталту кепскага ведання, няправільнага вымаўлення і гэтак далей. Хай чалавек гаворыць беларускай трасянкаю, потым прыйдзе добрае валоданне сваім. Ты толькі старайся.

Але калі табе больш зручна парасійску – то мы не адродзім мовы. А мова – гэта душа народа, і калі мы ігнаруем яе – гэта страшна.

### Вера

На другое месца ў нашым змаганні пастаўлю веру. Беларусы маюць вельмі дзіўную звычку гаварыць: “гэта віламі па вадзе пісана”, бо неяк яны баяцца верыць у свае і ідэалы, і магчымасці, і здольнасці. На кожным кроку маюць гэты комплекс, што “ай, гэта не зробім, гэта віламі па вадзе пісана”, “такое не пацягнем” і гэтак далей. Думаю, тут таксама ёсць уплыў суседскі, “угаварылі” беларусаў не верыць у свае здольнасці. Пра гэта – пра веру – таксама трэба нам гаварыць.

Нам у гэтым цяжкім часе вера шмат у чым можа дапамагчы. Гэта не пра веру ў Бога – не ўсе беларусы вераць у Бога, але пра веру ў саміх сябе, у свае сілы. Разам мы ўсё можам.

Не змагла б жыць, калі б я не верыла ў тое, што Беларусь зноў будзе вольнай. Скажу так, як Алесь Бяляцкі сказаў у сваёй Нобелеўскай прамове: я веру, бо ведаю. Гэта вельмі важна, каб кожны з нас быў перакананы, што мы дажывем да таго часу, калі будзем гаспадарамі на сваёй зямлі.

### Прыналежнасць

Любоў да свайго народа, пачуццё прыналежнасці, разуменне таго, што мы ёсць. Неяк слухала на адной канферэнцыі выступоўца з іншай краіны, і вось ён кажа: гляньце вакол вас, хто вам найбліжэйшы тут – ніхто такім блізкім да вас не будзе, як ваш суайчыннік. Я згодная з гэтым. Калі чалавек вызнае сябе беларусам – гэта ваш найлепшы прыяцель. Сваркі, звадкі, якія часта здараюцца ў беларускім асяродку, вельмі моцна шкодзяць. Шмат хто з нас любіць даказваць тое, што лепш ведае нешта наконт Беларусі, заміж каб падумаць пра тое, што сварка і спрэчка ідзе з найбліжэйшымі людзьмі, беларусамі. Праз усе мае 25 гадоў старшынства я стараюся пра гэта гаварыць.

### Годнасць

Мы ўжо даўно перасталі быць рабамі. Некалі мы казалі пра сябе “тутэйшыя”, бо не адважваліся казаць, што мы беларусы. Гэта недапушчальна ў наш час. Мы – стары еўрапейскі народ, народ разумны, адукаваны, таленавіты. На маю думку, мы даўно ўжо здабылі назоў цывілізаванага народа і маем права быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Беларусы заўжды вельмі моцна любілі хоць і маленькі, але свой куточак зямлі, свой хутар. Мы павінны зразумець, што вось гэты куточак могуць адабраць, адбіраюць – магчыма, такое параўнанне, калі беларус уявіць яго, зможа прымусіць заварушыцца народ?

### Пра 2020 год свет мусіць помніць

Ці не дарма ўсё было ў 2020 годзе? Не дарма. Мы ведаем, як цяжка было заўсёды быць беларусам і даказваць усім, што мы існуем і Беларусь існуе. Падзеі 2020 года адкрылі вочы свету. Цяпер толькі трэба рабіць, каб пра гэта людзі не забываліся. Першы раз увесь свет пабачыў, што беларусы хочуць быць вольнымі, што яны не ёсць рабамі, што яны не задавальняюцца пазіцыяй сваёй краіны як расійскай калоніі. Гэтая рэвалюцыя – нібыта спакойная – зрабіла велізарную працу. І цяпер нашая задача, каб ніхто пра гэта не забыўся.

Рыгор Сапежынскі,
budzma.org




Дзень Волі

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ВАРШАВЕ

Святкаванне Дня Волі ў Варшаве распачалося каля калоны Жыгімонта на Замкавай плошчы. Шэсце, ачоленае Зянонам Пазняком, рушыла на плошчу Канстытуцыі, дзе ў 15.00 пачаліся мітынг і канцэрт. Разам з бел-чырвона-белымі сцягамі над калонай луналі сцягі Украіны, Польшчы, Татарстану.

**Алена Ляшкевіч,**
**budzma.org**

## ВІНШУЕМ З ДНЁМ ВОЛІ

Дарагія сябры!

105 гадоў таму, 25 сакавіка 1918 года, наш народ засведчыў сваё права гаспадарыць на ўласнай зямлі, абвясціўшы незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Агучаныя на ўвесь свет гэтым найважнейшым у гісторыі беларусаў актам, нашы нацыянальныя арыенціры і дэмакратычныя ідэалы былі сапраўдным промнем святла пасярод чорнага віру з рэвалюцыі, вайны і акупацыі.

Сённяшнія гістарычныя варункі палохаюць сваім падабенствам да падзеяў стогадовай даўніны. На тэрыторыі нашай краіны расійскія войскі, а лік тых, хто сёння дзеля волі і незалежнасці ахвяруе асабістай воляй і адзначае гэты дзень за кратамі, вымяраецца тысячамі. Але найлепшым сведчаннем трываласці нашых каштоўнасцяў ёсць тое, што дэмакратычная беларуская супольнасць па ўсім свеце шырока і годна адзначае 105-гадовы юбілей нашай дзяржаўнасці, нягледзячы на ўсе высілкі антынародных сілаў пазбавіць нас памяці.

Выратавальны для краіны і сумлення кірунак пазначаны тымі самымі колерамі і сімваламі, якія стагоддзе таму абралі заснавальнікі беларускай дзяржавы, там гучыць мова, на якой гаварылі нашы продкі, на якой гаворым мы.

Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуе ўсіх беларусаў з Днём Волі! Хай ідэалы 25 сакавіка натхняюць усіх нас на салідарнасць і веру ў нашу перамогу! Наш кірунак – вольная незалежная Беларусь, дзе жыццё людзей, іх свабоды і правы – перадусім.

Жыве Беларусь!

**Супольнасць беларусаў свету**
**"Бацькаўшчына"**

Кніга

# З'ЯВІЎСЯ НОВЫ БЕЛАРУСКІ ПЕРАКЛАД БІБЛІІ

На пераклад пратэстанцкаму пастару Антонію Бокуну спатрэбілася 12 гадоў.

Пра новы беларускі пераклад Бібліі паведаміў сам Антоні Бокун на сваёй старонцы ў Facebook.

Паводле пастара, ён пачаў працу ў 2011 годзе, Новы Запавет перакладаў з грэцкай мовы, Стары Запавет – з іўрыту.




Пераклад ужо даступны ў электроннай форме праз мабільны дадатак Bible App і размешчаны на сайтах www.bible.com, www.bible.by, www.logos.by.

**budzma.org**



# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ТАРОНТА

Дзень Волі-2023 у Таронта быў адзначаны маршам салідарнасці з Украінай і канцэртам беларускіх і ўкраінскіх удзельнікаў.

Дзякуй усім, хто далучыўся да маршу нягледзячы на кепскае надвор'е. Шчырая падзяка Украінскай праваслаўнай царкве святога Уладзіміра і Канадскаму батальёну за Украіну за падтрымку і святкаванне Дня Волі з намі, а таксама ўсім гасцям, валанцёрам і артыстам!

**belarusians.ca**

**Дзень Волі**

# КОЎНА: АДКРЫЦЦЁ ПОМНІКА НА МАГІЛЕ АЎТАРА БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАГА СЦЯГА

На Пятрашунскіх могілках у Коўне 25 сакавіка сабралася больш сотні людзей, якія прыйшлі ўшанаваць памяць Клаўдзія Дуж-Душэўскага, беларускага патрыёта, аўтара эскізу нацыянальнага сцяга, ковенскага архітэктара.

Ініцыятаркай рэканструкцыі надмагілля стала кіраўніца суполкі "Коўна беларускае" Ніка Выгоўская. Паводле спадарыні Выгоўскай, да стварэння помніка спрычыніліся беларускія актывісты (данатамі ад 5 да 800 еўра), літоўскія ўлады, прадстаўнікі Саюза стралкоў Літвы і іншыя.

На цырымонію прыйшоў Марус Душаўскас-Дуж – праўнук Клаўдзія Дуж-Душэўскага. "Ведаю свайго продка толькі па партрэтах. Знаў, што ён быў інжынерам, потым я высветліў, што ён быў яшчэ і вельмі актыўным удзельнікам барацьбы за незалежнасць і будаўніцтва беларускай незалежнай дзяржавы, быў аўтарам бел-чырвона-белага сцяга. Вялікі дзякуй, што падтрымліваеце памяць пра майго прадзеда", – сказаў ён.

Адзін з падпісантаў Акта аб аднаўленні незалежнасці Літвы 1990 года Саўліс Печалюнас нагадаў, што беларусы і літоўцы амаль адначасова атрымалі незалежнасць у 1918 годзе, але Беларусі "не пашанцавала".

"Зараз мы вельмі жадаем, каб ва Украіне хутчэй скончылася барацьба за нашыя агульныя чалавечыя каштоўнасці. Гэта вырашальная бітва не толькі для ўкраінцаў, але і для беларусаў. Праз яе ў Беларусі ёсць шанец вярнуць сабе незалежнасць", – сказаў падпісант. Саўліс Печалюнас таксама ўзгадаў, што Клаўдзій Дуж-Душэўскі быў выгнаннікам: "Літва заўжды прымала суседзяў". "Месца яго пахавання заўжды будзе для беларусаў месцам, куды можна прыйсці, каб падняць свой дух і набрацца сілы для добрых спраў", – зазначыў ён.

Паводле гісторыка Томаша Блашчака з Інстытута Вялікага Княства Літоўскага, яшчэ гадоў 15 таму магіла Дуж-Душэўскага была "забытым беларускім месцам памяці ў Коўне". "Сёння, калі часы для ўсіх беларусаў свету вельмі складаныя, гэта месца – магіла аўтара беларускага сцяга – вяртаецца ў свядомасць беларусаў", – сказаў ён.

Прадстаўнік Саюза стралкоў Літвы Стасіс Ігнатавічус нагадаў, што "літоўцы з беларусамі змагаліся разам супраць ворагаў яшчэ з часоў Грунвальда". "На гэтых і іншых могілках пахаваныя тыя, хто змагаўся супраць бальшавізму як у Літве, так і ў Беларусі. Партызаны, якія змагаліся з камуністамі на тэрыторыі Беларусі, праходзілі ваенную падрыхтоўку ў тым ліку ў шэрагах літоўскіх стралкоў, шмат каго з іх ўганаравалі вышэйшымі ўзнагародамі Літоўскай Рэспублікі. Свабода – гэта анёл, дыктатура – д'ябал. Жадаем, каб як мага хутчэй анёл перамог чорта ў Беларусі", – сказаў Стасіс Ігнатавічус.



У раскладзе цырымоніі знайшлося месца і нечаканым гасцям, як сказала Ніка Выгоўская. Аказваецца, 25 сакавіка ў Коўна адмыслова прыляцелі нашчадкі габрэйскай дзяўчынкі, уратаванай Клаўдзіем Дуж-Душэўскім падчас нямецкай акупацыі Коўна. Яны таксама прыйшлі на адкрыццё новага помніку беларускаму патрыёту.

За ратаванне габрэяў падчас Другой Сусветнай вайны Клаўдзій і Алена Дуж-Душэўскія 13 красавіка 2004 года пасмяротна атрымалі ўзнагароду прэзідэнта Літвы.

**Рыгор Сапежынскі, budzma.org**

# СВЯТОЧНАЕ ШЭСЦЕ, МІТЫНГ І ДВАРОВЫ КАНЦЭРТ: ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў БАТУМІ

Настрою шэсцю надаваў гурт бубначоў.

На святкаванне сабраліся дзясяткі чалавек. Яны неслі бел-чырвона-белыя сцягі, сцягі Украіны і Грузіі, а таксама плакаты "Верым, можам, пераможам!", "Неверагодныя", "Пахне!".

У цэнтры горада, на плошчы Еўропы, вітальныя словы да ўдзельнікаў святкавання дубляваліся па-грузінску.

У знак павагі да Грузіі за тое, што яна прытуліла тысячы беларусаў, прагучаў грузінскі дзяржаўны гімн.

З віншавальным словам у відэазапісе выступіла старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

Напярэдадні Дня Волі, 24 сакавіка, у "аК-сяродку" адбыўся святочны квіз "Што ты ведаеш пра БНР".

**budzma.org**



**Дзень Волі**

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў АТАВЕ

Першая ластаўка Вольнага Сакавіка 2023 – урачыстая імпрэза і канцэрт, арганізаваныя атаўскім аддзелам Згуртавання беларусаў Канады і сябрамі БІНіМ у Канадзе.




Імпрэза пачалася з малітвы за Беларусь, якую прачытаў Айцец Вячаслаў Кучук, святар Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

З вялікай радасцю прысутныя віталі Старшыню Рады БНР Івонку Сурвіллу і ейны зварот да беларусаў на Радзіме і па ўсім свеце. Затым з прамовай пра гістарычную ролю БНР выступіў Пётра Мурзёнак, рэдактар часопіса “Культура. Нацыя”, старшыня БІНІМ і сябра Згуртавання беларусаў Канады.

У святкаванні Дня Волі ўзялі ўдзел лідары эстонскай, латвіскай, літоўскай, украінскай дыяспараў, усе яны засведчылі падтрымку беларускаму народу і ўпэўненасць, што Беларусь далучыцца да еўрапейскай сям’і народаў ў недалёкай будучыні.

Радасць і гонар зваццa беларусам і адначасова трагічны лёс Беларусі ўсім сэрцам адчулі прысутныя падчас канцэрту класічнай музыкі. Гучалі творы беларускіх кампазітараў, вершы беларускіх паэтаў. Абавязкова паслухайце песню “Мой родны кут” у выкананні канадскай сапрана Ванды Пресішын з акампанементам Уладзі Шамецька (скрыпка), Ніны Гордан (віяланчэль), Аляксандры Голад (фартэпіяна). Цікавы факт: гербы беларускіх гарадоў і пано з беларускімі народнымі строямі, якія вы ўбачыце на сцэне, былі зробленыя дзецьмі атаўскіх беларусаў у 1970-я гады з дапамогай мастацкага таленту Івонкі Сурвіллы.

**Паводле belarusians.ca**



# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў БЕЛАСТОКУ: МЫ ПЕРАМОЖАМ!

25 сакавіка 105-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Беластоку супольна адзначылі беларусы з Падляшша і беларуская дыяспара.

Як кажа адзін з суарганізатараў, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства праф. Алег Латышонак, “хаця інтэграцыя яшчэ не адбылася, яшчэ пабачым, як яно будзе, то гэтае свята яднае ўсіх беларусаў у свеце”.

З раніцы на балконе Гасціннага палаца па вуліцы Кілінскага ўладамі горада былі вывешаны тры бел-чырвона-белыя сцягі. Праграма Дня Волі пачалася з ускладання кветак перад Следчым ізалятарам па вуліцы Капэрніка, дзе верагодна ў 1939 г. саветамі быў закатаваны Макар Краўцоў, аўтар гімну БНР “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

На мітынгу на Рынку Касцюшкі сабралася каля 500 чалавек. Былі патрыятычныя прамовы, песні, лозунгі – “Жыве Беларусь!”, “Быць нам разам!”, “Верым, можам, пераможам!”. Узгадваліся палітычныя вязні рэжыму ў Мінску. Хвілінай маўчання былі ўшанаваныя беларусы і ўкраінцы, якія загінулі ў вайне ва Украіне.

Пасля пікету адбыўся святочны канцэрт, які прайшоў у Усходнееўрапейскай акадэміі прыкладных навук. Спярша выступіў беластоцкі (родам з Гомеля) бард, оперны спявак і мастак Алег Кабзар, а пасля знакаміты сямейны гурт “Бартосікі”. Канцэрт завяршыўся супольным спяваннем гімну “Магутны Божа”.

**czasopis.pl**

# ДЗЕНЬ ВОЛІ І ГУКАННЕ ВЯСНЫ Ў ЭДМАНТАНЕ

Беларусы Эдмантана адсвяткавалі Дзень Волі, адкрыўшы мерапрыемства прызнаннем традыцыйнай зямлі тэрыторыі 6-й Дамовы і падзякай карэнным народам Канады.

Затым прысутныя ўзгадалі гісторыю БНР, праспявалі Ваяцкі марш, прачыталі вясновы верш Ганны Севярынец, а таксама паслухалі прадстаўніка карэннага народу.

Пасля смачнага застолля пачалі гукаць вясну карагоднымі спевамі і Лявоніхай. А напрыканцы свята па старой добрай беларускай традыцыі ўдзельнікі спалілі пудзіла сусветнага зла, каб усё благое сышло.

**Паводле belarusians.ca**



**Дзень Волі**

# СВЯТКАВАННЕ ДНЯ ВОЛІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

З канцэртам і святочнымі прамовамі. Так адзначалі Дзень Волі ў Нью-Ёрку.



Беларусы па ўсім свеце 25 сакавіка адзначалі 105-ю гадавіну абвяшчэння незалежнасці БНР. Насычаныя мерапрыемствы, акцыі, выступы, канцэрты, шэсці, выставы, мітынгі, узняцце сцягаў прайшло як у еўрапейскіх краінах, так і ў ЗША.

У Нью-Ёрку галоўнае святочнае мерапрыемства прайшло не 25, а 26 сакавіка і пачалося са службы ў саборы св. Кірылы Тураўскага, што на Атлантык-авеню. Тут сонечным нядзельным ранкам на будынку сабора былі ўсталяваны свежыя сцягі: нацыянальны беларускі, украінскі і амерыканскі. Гатавалася бабка, смажыліся каўбаскі ды дранікі. Сцягі на саборы мяняюцца два разы на год – падчас святкавання Дня Волі і ў верасні.

У царкве ў гэту раніцу сабралася некалькі дзясяткаў людзей. Святар царквы айцец Іван Кухар адслужыў малебен за свабоду для Беларусі. Разам са святаром вернікі маліліся за палітвязняў і ўсіх беларусаў, якія пакутуюць.

Падчас малебна адбылося ўрачыстае ўзняцце беларускага нацыянальнага і амерыканскага сцягоў, якія парафіяне вынеслі наперад і трымалі падчас малітвы.

Апоўдні ў грамадскай зале пры саборы св. Кірылы Тураўскага пачалася святочная праграма, якая распачалася спяваннем гімна Беларускай Народнай Рэспублікі “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, вядомы таксама як “Ваяцкі гімн”.

Пасля гэтага з віншавальным словам для прысутных выступіла старшыня Галоўнай управы BAZA Наталля Федарэнка. Яна звярнула ўвагу на тое, што 25 сакавіка – гэта Дзень Волі, бо ў 1918 годзе беларусы абʼявілі аб сваёй незалежнасці. Таксама яна ўзгадала сённяшнюю сітуацыю і складаныя варункі для беларускай дзяржаўнасці.

“25 сакавіка 1918 года мара ўсіх пакаленняў беларусаў, што жылі і цярпелі пад імперскім гнётам і змагаліся за аднаўленне сваёй дзяржавы, нарэшце ажыццявілася. Мы шчаслівыя, што беларусы, што сталі ля вытокаў БНР, зрабілі амаль немажлівае і абвесцілі аб стваранні незалежнай беларускай дзяржавы, і заклалі цвёрды падмурак для нашай Бацькаўшчыны, які быў скарыстаны ў 1991 годзе, калі паўстала незалежная Беларусь”, – прамовіла старшыня ўправы.

Акрана Пятрашка, старшыня нью-ёркскага аддзела BAZA, звярнула ўвагу прысутных на выкарастынне роднай мовы ў паўсядзённым жыцці. А таксама заклікала шанаваць і працягваць барацьбу беларускіх сыноў за незалежнасць Беларусі.

У залі таксама быў уключаны зварот Івонкі Сурвіллы, старшыні Рады БНР. Прыгадаўшы гісторыю абвяшчэння незалежнасці БНР, спадарыня Сурвілла звярнулася да беларусаў з нагоды 105-гадавіны гэтай падзеі:

“Дарагія суродзічы, дзеля прысутнасці 105 год таму на нашай усходняй мяжы таго самага крывавага ворага, які дасюль не пазбыўся сваіх імперскіх намераў, мы сёння яшчэ раз абвяшчаем свету, што мэтай нашага народу дасюль ёсць змагацца ўсімі даступнымі нам сіламі, каб абараніць наш вольны і незалежны край ад цяперашняга самазванца і ад ягоных расейскіх патронаў, якія яшчэ ўсё пагражаюць зноў паняволіць наш народ”, – сказала Івонка Сурвілла.

Пры гэтым яна падкрэсліла, што беларусы зʼяўляюцца самастойным, адукаваным, развітым народам у сямʼі еўрапейскіх народаў.

Віншавальнае слова старшыні Парафіяльнай Рады сабору св. Кірылы Тураўскага Расціслава Гарошкі было прысвечана дзейнасці паваеннай беларускай эміграцыі, важнасці акта 25 сакавіка 1918 года.

Сябра Рады БНР Ганны Сурмач павіншавала прысутных і нагадала аб ідэалах БНР.

“Рада БНР – гэта не толькі сімвал нашай дзяржаўнай незалежнасці, а гэта і дзейсная палітычная структура. Рада БНР будзе працаваць да таго часу, пакуль Беларусь не стане цвёрда на шлях дэмакратычнага развіцця. Я спадзяюся, што гэты час настане і мы гэтаму паспрыяем”, – сказала спадарыня Ганна.

Міхал Чаропка, заступнік старшыні нью-ёркскага аддзела BAZA, зрабіў мультымедыйны даклад на тэму “Гісторя БНР”. У ім ён паказаў значнасць Акта 25 сакавіка і падкрэсліў моманты барацьбы беларускага народа за сваю незалежнасць і свабоду.

Аліна Коўшык, прадстаўніца па нацыянальным адраджэнні Абʼяднанага пераходнага кабінета, якая цяпер знаходзіцца ў ЗША, прывітала беларусаў ад імя кабінета. А таксама адзначыла складанасці нацыянальнага адраджэння, варожасць і чужасць улады да нацыянальна-культурных памкненняў беларусаў.

“Воля, гонар, незалежнасць – гэтыя каштоўнасці падзялялі заснавальнікі БНР. Гэтыя каштоўнасці праз 105 гадоў падзяляем і мы з вамі”, – зазначыла Аліна Коўшык.

Таксама на мерапрыемстве прагучала віншаванне ад Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, зачытвалася 3-я Устаўная Грамата БНР, з віншавальным словам выступіў старшыня Беларуска-Амерыканскага Згуртавання “Пагоня” Віталь Зайка. Адбылося паўторнае адкрыццё выставы мастака-графіка Змітра Шапавалава, ад Ірыны Хадарэнка, сябры Беларускай Асветніцкай Лігі Амерыкі (BELA), чытаньне эсэ Уладзіміра Арлова “Незалежнасць – гэта…”.

Сапраўдным упрыгожваннем сьвяточнай імпрэзы сталі спецыяльныя музычныя госці – Сяржук Сокалаў-Воюш, Вольга Казак-Анлар і Зміцер Вайцюшкевіч, які напярэдадні выступіў у Бостане.

Сяржук Сокалаў-Воюш спяваў вядомыя і любімыя свае песні, а таксама прадставіў новую, якая яшчэ не зʼяўлялася на прасторах інтэрнэта і на шырокай аўдыторыі.

Вольга Казак праспявала як народныя беларускія, так і ўкраінскія, а таксама карагодныя песні. Яны былі прасякнутыя любоў да сваёй зямлі і прыродным хараством.

Зміцер Вайцюшкевіч выканаў шмат песень на словы Уладзіміраў – Караткевіча і Някляева. Прагучалі ў яго песні і дзіцячай тэматыкі. Як адзначыў сам Зміцер, гэта асаблівыя песні, якія служаць абуджэнню нацыянальных пачуццяў у маленькіх беларусікаў.

Усім музыкам вядомы скульптар Гэнік Лойка падараваў бюсты Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага, якія ён адліў адмыслова да Дня Волі.

У грамадскай зале пры саборы св. Кірылы Тураўскага ў гэты дзень было шматлюдна, цікава, насычана, лёгка і свабодна.

Адзін з удзельнікаў мерапрыемства, дальнабойшчык, распавёў у прыватнай гутарцы, што ехаў з грузам з Флорыды на поўнач. Пакінуў трак і прыйшоў на некалькі гадзін на святкаванне Дня Волі, каб потым зноў сесці за стырно.

**Алесь Пазьняк, bielarus.info**

Дзень Волі

# 105-Я ЎГОДКІ АБВЯШЧЭННЯ БНР У РЫЗЕ

Самае галоўнае свята латвійскіх беларусаў, Дзень Волі, традыцыйна адзначылі беларусы ў Рызе 25 сакавіка. Вялікая зала ў будынку Асацыяцыі Нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі не змагла на гэты раз змясціць ўсіх, хто лічыць гэтую дату вельмі важнай для ўсіх беларусаў і таму прыйшоў ў Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак".

З моманту заснавання таварыства ў далёкім 1988 годзе гэтая дата абавязкова сваткавалася штогод. Але ніколі раней не было ў зале і такой колькасці беларусаў і гасцей, і стольці выяў бел-чырвона-белых сцягоў. Бо сцены залы на гэты раз былі ўпрыгожаныя карцінамі Вольгі Якубоўскай, расквечанымі нашымі прыгожымі і ўрачыстымі бел-чырвона-белымі штандарамі. Менавіта да 25 сакавіка Вольга Якубоўская прымеркавала адкрыццё сваёй першай персанальнай выставы ў Рызе пад назвай "Малюю наша жыццё".

Традыцыйна імпрэза распачалася сумесным выкананнем Дзяржаўнага гімна Латвіі "Dievs, svēti Latviju" ("Божа, дабраславі Латвію") і неафіцыйнага беларускага гімна "Магутны Божа".

Прысутныя таксама ўшанавалі хвілінай маўчання дэпартаваных ахвяр савецкай акупацыі ў Латвіі, бо 25 сакавіка ў Латвіі – афіцыйны жалобны дзень, а таксама загінулых змагароў за свабоду Беларусі і Украіны. На ўрачыстай частцы імпрэзы госці і сябры "Сьвітанка" сумесна змаглі ўбачыць відэазварот Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвілы з нагоды



Вольга Якубоўская і Ганна Іванэ

105-х угодкаў абвяшчэння незалежнай БНР. У сваей прывітальнай прамове старшыня таварыства Тацяна Казак з радасцю адзначыла, што 25 сакавіка 2023 года атрымаўся сапраўдным урачыстым падвойным Днём Волі, маючы на ўвазе і саму назву свята і такое прыгожае імя гаспадыні выставы.

Са святам Дня Волі прысутных і з адкрыццём выставы Вольгу Якубоўскую віншавалі таксама вядучая імпрэзы Ганна Іванэ, шматгадовая дырэктарка беларускай школы ў Рызе, і Вячка Целеш, кавалер Ордэна Трох Зорак, кіраўнік Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар".

Ганаровымі гасцямі імпрэзы былі вядомая беларуская паэтка Віка Трэнас і дэпутаткі Сейма Латвіі Яна Сіманоўска і Лэйла Расіма. Кіраўнік Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі, прафесар музыкі Рафі Хараджанян у сваёй віншавальнай прамове прывітаў шматлікіх новых наведвальнікаў і выказаў асабістае захапленне працамі Вольгі Якубоўскай. Ён адзначыў своеасаблівы і вельмі адметны творчы погляд мастачкі.

Імпрэзу сваімі спевамі вельмі ўпрыгожыў гурт "Дівчата". Убраныя ў бел-чырвона-белыя строі, прыгажуні выканалі патрыятычныя ўкраінскія песні "Вольная воля" і "Ой у лузе чэрвона каліна". А беларускую народную песню "Купалінка", якую гурт выконваў упершыню, разам з імі спявала ўся зала.

Вольга Якубоўская павіншавала прысутных і шчыра падзякавала ўсім, хто прыйшоў адзначыць свята і наведаць яе выставу. А яшчэ запрасіла ўсіх знаёміцца не толькі з карцінамі, але і таксама пазнаёміцца наведвальнікам імпрэзы паміж сабой. Трэба адзначыць, што многія беларусы Латвіі не толькі прыйшлі да нас упершыню, але прыехалі з розных куткоў Латвіі, а некаторыя – нават з Літвы.

Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" выказвае шчырую падзяку Вользе Якубоўскай за прыгожыя і эмацыйныя карціны, зробленую велізарную працу і актыўную грамадзянскую пазіцыю. Спадзяемся, што гэтая першая яе выстава не будзе апошняй на Слокас, 37. Творчасць Вольгі і яе адметны стыль выканання вельмі кранальныя і выклікаюць шмат станоўчых эмоцых ў тых, хто іх бачыць, а таксама выклікаюць гонар за беларусаў і спадзеў на свабоду, штурхаюць да імкнення да волі. Жадаем Вользе Якубоўскай плёну ў працы і творчага натхнення, а ўсім беларусам – сапраўднай Волі. Мы ўдзячныя кожнаму, хто ўзяў удзел у суботнім мерапрыемстве, і таксама запрашаем кожнага завітаць па адрасе Slokas, 37 у Рызе, каб асабіста пазнаёміцца з усімі творамі Вольгі Якубоўскай. На выставе ў Вялікай зале экспануюцца 25 карцін серыі "Коцікі Свабоды" з асабістымі каментарамі мастачкі па гісторыі іх напісання. Казачнымі вобразамі адлюстраваны як трагічныя, так і святочныя моманты сучаснасці і гісторыі Беларусі, якія звяртаюць увагу і выклікаюць інтарэс і дарослых, і дзяцей. Некаторыя з прац выстаўленыя ўпершыню. У Камiннай зале размешчаныя іншыя працы мастачкі рознай тэматыкі і перыяду напісання, у тым ліку шыкоўныя мастацкія карціны са скуры, якія можна набыць па дамоўленасці.

**Андрэй Татур, svitanak.eu**

# БЕЛАРУСЫ ШВЕЙЦАРЫІ Ў ДЗЕНЬ ВОЛІ ПІСАЛІ ЛІСТЫ ПАЛІТВЯЗНЯМ

Беларуская дыяспара Швейцарыі пры падтрымцы беларуска-швейцарскай асацыяцыі Razam.ch з нагоды 105-й гадавіны абвяшчэння БНР зладзіла святочную імпрэзу ў Цюрыху. У мерапрыемстве ўзяў удзел і беларускі гурт "Znak Stop".

Тэма палітвязняў была ключавой падчас прамоваў, "бо гэтым людзям і іх сем'ям зараз цяжэй за ўсіх", – адзначылі ўдзельнікі мерапрыемства. Яны напісалі лісты і паштоўкі беларускім палітвязням.

"Хоць мы і ведаем, што большасць карэспандэнцыі за краты не трапляе, але ўсё роўна лічым сваім доўгам не спыняцца ў гэтым кірунку – нягледзячы на тое, што зваротнай сувязі, нібыта, няма, яна насамрэч ёсць. Мы фіксуем усе лісты, што дасылаем палітвязням, і рана ці позна,




але адрасат у любым выпадку даведаецца, што за яго лёсам сачылі, перайmaліся, яго падтрымлівалі", – тлумачаць сваю пазіцыю сябры Razam.ch.

Сярод гасцей імпрэзы былі швейцарцы, немцы, украінцы і расійцы.

"Агульныя каштоўнасці – безумоўная павага да дэмакратыі і правоў чалавека, непрыманне несправядлівасці і гвалту, – яднае людзей розных нацыянальнасцяў. Наша сіла ў салідарнасці, еднасці. Сёння мы хочам нагадаць рэпрэсаваным беларусам, усім тым суайчыннікам, што прагнуць дэмакратычных перамен: мы – з вамі! Ніколі не забываем пра вас, захапляемся вашай мужнасцю і самаахвярнасцю і верым, што наша Бацькаўшчына абавязкова будзе вольнай! З Днём Волі!" – звярнуліся да суайчыннікаў беларусы Швейцарыі.

**Вольга Класкоўская, novychas.online**

**Дзень Волі**

# Часовы паверany ў справах ЗША: мы застаемся на баку беларускага народа

Часовы паверany ў справах ЗША Рубен Аруцюнян запісаў відэа ля будынка на вуліцы Валадарскага ў Мінску, дзе прымалася Трэцяя Устаўная грамата Беларускай Незалежнай Рэспублікі, і павіншаваў беларусаў з Днём Волі. Прыводзім тэкст звароту з нагоды 105-й гадавіны абвяшчэння БНР.



“Сёння беларусы адзначаюць Дзень Волі. Вось у гэтым будынку 105 гадоў таму была прынята грамата, якая абвяшчала Беларускую Народную Рэспубліку як незалежную і вольную дзяржаву. А 5 гадоў таму нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч сказала, што ўжо вырасла маладое пакаленне, якое ведае і любіць сваё мінулае і гатова за яго змагацца. аднак і гісторыя, і сучаснасць паказваюць, што дэмакратыя і незалежнасць – не дадзенасць. Іх трэба адстойваць і аднаўляць. Беларусы зрабілі свой выбар на карысць дэмакратыі, суверэнітэту і незалежнасці, міру і супраць вайны. Злучаныя Штаты Амерыкі падтрымліваюць гэты выбар і застаюцца на баку беларускага народа. З Днём Волі!”

**Reform.by**

# Вандроўкі па беларускай мінуўшчыне ў Беластоку з Уладзімірам Арловым

Цягам ужо больш за два месяцы ў Беластоку знакаміты гісторык Уладзімір Арлоў праводзіць заняткі ў сваёй гістарычнай школе для падлеткаў. Вербальныя вандроўкі ў мінулае заканчваюцца віктарынай і прызамі.



Хоць заяўленая мэтавая аўдыторыя гістарычнай школы Уладзіміра Арлова – падлеткі ад 12 гадоў і старэйшыя, на заняткі, якія адбываюцца два разы на месяц, прыходзяць і дарослыя. Бо расповеды пры слаўную беларускую мінуўшчыну з вуснаў дасведчанага спецыяліста – гэта каштоўнасць, якую не варта абыходзіць увагай. І тут цяжка не пагадзіцца са спадарам Уладзімірам, што гістарычнай памяць здольная аб’яднаць народ, даць яму сілу ў цяжкія часы. Больш за тое, гэтая памяць разам з мовай народа абароніць дзяржаву лепей за любую армію, з чаго і ўзнікла ідэя стварыць гістарычную школу ў Беластоку.

Апошняй на дадзены момант вандроўкай па беларускай мінуўшчыне з Уладзімірам Арловым стала падарожжа ў свет вялікалітоўскіх рыцараў і бітвы пад Оршай, якая неад’емна звязана з імем князя Канстанціна Астрожскага. Гісторык распавёў пра абарону Вялікага Княства Літоўскага ад татараў і Масковіі, якая на той час ужо вызвалілася з-пад улады Залатой Арды, але па сутнасці зрабілася яе адбіткам – і па пабудове дзяржаўнай структуры, і па ідэі панавання над усім светам, што, па меркаванні Уладзіміра Арлова, знайшло выражэнне ў формуле “Масква – Трэці Рым, а чацвёртаму не бываць”.

На ўроку гаварылася пра рыцарскія законы і правілы, пра рыцарскую зброю і, вядома, рыцарскія турніры.

Як адзначае Уладзімір Арлоў, пакуль цяжка сказаць пра нейкія папярэднія вынікі яго навучальных вандровак, бо школа ўсё ж такі не так даўно пачалася, але ён мяркуе, што заняткі будуць працягвацца, прычым нават у наступным навучальным годзе. Сваіх слухачоў ён акрэслівае як даволі дасведчаных, якія не баяцца ўступаць у спрэчкі і палеміку. Дарэчы, Уладзімір Арлоў чытае лекцыі не толькі ў Беластоку.

Варта прызнаць, што такія вандроўкі па гісторыі знаходзяць водгук у тых, на каго яны арыентаваныя. Некалькі слухачоў-падлеткаў, асабліва тых, што сталі прызёрамі віктарыны з пытаннямі па тэме ўрока, далі станоўчыя водгукі.

**radiounet.fm**

## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2023 года

**1 красавіка**
- 250 гадоў таму, у 1773-м, нарадзіўся Юстын Нарбут, гісторык. Памёр у 1845-м.

**2 красавіка**
- 90 гадоў таму, у 1933-м, нарадзіўся Віктар Шымук, пісьменнік. Памёр у 1998-м.

**6 красавіка**
- 75 гадоў таму, у 1948-м, памёр Мікола Шыла, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

**7 красавіка**
- 50 гадоў таму, у 1973-м, памёр Язэп Дыла, пісьменнік.
- 40 гадоў таму, у 1983-м, памерла Ларыса Геніюш, паэтка.

**11 красавіка**
- 100 гадоў таму, у 1923-м, у Вільні пачаўся першы з’езд педагогаў беларускіх сярэдніх школ Заходняй Беларусі, скліканы ТБШ.

**14 красавіка**
- 20 гадоў таму, у 2003-м, памерла Зора Кіпель (дзяв. Савёнак), літаратуразнавец, грамадска-культурная дзеячка эміграцыі ў ЗША.

**17 красавіка**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, памёр Лявон Кульчыцкі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. на Гарадзеншчыне.
- 50 гадоў таму, у 1973-м, памёр Пётр Юргілевіч, мовазнавец.

**18 красавіка**
- 185 гадоў таму, у 1838-м, нарадзіўся Уладзіслаў Дыбоўскі, заолаг, батанік, палеантолаг, мінеролаг, фалькларыст. Памёр у 1910-м.
- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Платон Галавач, пісьменнік. Расстраляны ў 1937-м.

**20 красавіка**
- 265 гадоў таму, у 1758-м, нарадзіўся Язафат Булгак, уніяцкі мітрапаліт. Памёр у 1838-м.

**21 красавіка**
- 190 гадоў таму, у 1833-м, нарадзіўся Віктар Каліноўскі, адзін з ідэолагаў паўстання 1863–1864 гг. Памёр у 1862-м.

**23 красавіка**
- 100 гадоў таму, у 1923-м, памёр Ігнат Канчэўскі (псеўд. Ігнат Абдзіраловіч), паэт, філосаф.

**25 красавіка**
- 20 гадоў таму, у 2003-м, памёр Янка Жамойцін, грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Польшчы.

**26 красавіка**
- Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986)
- 140 гадоў таму, у 1883-м, памёр Напалеон Орда, кампазітар, мастак.

**27 красавіка**
- 410 гадоў таму, у 1613-м, у Жыровічах заснаваны ўніяцкі кляштар.

**28 красавіка**
- 140 гадоў таму, у 1883-м загінуў Уладзімір Кавалеўскі, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі.
- 105 гадоў таму, у 1918-м, Народны Сакратарыят Беларусі зацвердзіў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай і абавязковай у БНР.

**Беларусы ў свеце**
№ 3 (250), сакавік 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацёнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com